www.nv-online.info

№ 46 (3787)

14 чэрвеня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Да заканчэння падпіскі на «Народную Волю» на другую палову 2013 года застаецца меней за два тыдні. Не спазніцеся!**

У НУМАР!



# Не забівайце ржавыя цвікі ў сэрца рэдактара

Не раз пераконваўся: у нас яшчэ нямала людзей, якія ўспрымаюць усё новае ў штыкі.

Але ці мог я падумаць, што пераход “Народнай Волі” на каляровы друк выкліча ў некаторых нашых чытачоў самае сапраўднае абурэнне? Да глыбіні душы ўзрушылі мяне ў аўторак, у дзень выхаду папярэдняга нумара, некалькі тэлефонных званкоў.

— Навошта нам ваша каляровасць?..

— Наеліся (менавіта так было сказана. — **Аўт.**) мы новага дызайну ў дзяржаўных газетах, не патрэбны ён “Народнай Волі”...

— Нам **праўду** давайце, а ў якіх фарбах друкуецца газета — не мае значэння, як і тое, на якой паперы, хоць на туалетнай...

— Я ваш даўні падпісчык, але, мабыць, адмоўлюся ад ранейшага супрацоўніцтва, не хачу дадаткова плаціць пяць тысяч рублёў за нейкую малюнкавасць...

Катэгарычнасць маіх суразмоўцаў перарасходзіла ва ўльтыматыўнасць. Па голасе адчувалася: не ўспрынялі яны абноўлены воблік “Народнай Волі”. Болей таго, палічылі, што менавіта з гэтым звязана павышэнне падпіснога кошту на другое паўгоддзе.

Паспрабаваў пераконваць, што не толькі гэта, а і многія іншыя абставіны прымусілі рэдакцыю пайсці на падаражанне газеты, — і слухаць не захацелі. Адзін з апанентаў адразу кінуў трубку.

Ваша права, даражэнькія, слухаць ці не слухаць... Але мне ўсё ж хочацца вам пару слоў сказаць. Не трэба забіваць іржавыя цвікі ў сэрца рэдактара! Яно і без гэтага баліць вось ужо 18 гадоў. Баліць за Беларусь, за “Народную Волю”. І тое, што мы нарэшце, нягледзячы на сумную фінансавую сітуацыю, рызыкнулі пайсці на абнаўленне аблічча газеты, — зусім не грэх.

Паглядзіце: за апошнія гады літаральна ўсе газеты, акрамя нашай, сталі друкавацца ў каляровым варыянце. Гэта подых часу, больш сучасны дызайн, зусім іншае ўспрыняцце інфармацыі, асабліва ілюстрацыйнага кшталту. Пагадзіцеся, не можа “Народная Воля” заставацца белай варонай.

Так, на пяць тысяч рублёў падняўся падпісны кошт на месяц. Але ж падаражанне газеты звязана не толькі з друкаваннем яе ў шматколерным фармаце. Заўважу: вось ужо некалькі месяцаў запар падымаюцца тарыфы на экспедзіраванне выдання, прасцей кажучы, на дастаўку яго падпісчыкам і ў шапікі рознічнага гандлю. Днямі стала вядома пра чарговае падаражанне паліграфічных паслуг. На значныя сумы падскокваюць транспартныя выдаткі, падатковыя адлічэнні...

І што, скажыце, нам рабіць — вешаць замок на рэдакцыйныя дзверы ці разам з вамі, чытачамі, спрабаваць выкараскацца з фінансавай багны? Мы выбралі другі варыянт. Разумеем, не ўсім ён даспадобы, але ж гэта адзіная рэальная магчымасць утрымаць газету на плаву.

Для заможных людзей пяць тысяч рублёў — не грошы. А што, запярэчыце, рабіць тым, у каго канцы з канцамі не зыходзяцца? Адказваю: не губляць аптымізму, надзей на падмогу добрых грамадзян. У рэшце рэшт не на дрэйфуючай ільдзіне жывём, вакол столькі людзей, да якіх можна звярнуцца з адпаведнай просьбай.

Ды і сапраўды: што такое пяць тысяч рублёў? Двойчы праехаць на гарадскім транспарце, набываючы квіток у шафёра. Узяць малюсенькі бутэрброд у кавярні. Выпіць кубачак самай таннай кавы... Адным словам, рэдакцыя, клапоцячыся пра выжыванне газеты, з разуменнем паставілася да тых чытачоў, у якіх не салодкае жыццё.

Вядома ж, кошт падпіскі на “Народную Волю” быў бы значна ніжэйшы, калі б нам хоць крышачку дапамагала дзяржава. Зазірніце ў бюджэт на сёлетні год! На падтрымку сродкаў масавай інфармацыі выдзелена 669 мільярдаў 206 мільёнаў 189 тысяч рублёў. Але ж з іх “Народная Воля” ні капейкі не атрымае. Чужая яна для “Чырвонага дома”. Хоць не чужая для Міністэрства па падатках і зборах. Толькі за першы квартал мы пералічылі ў той жа дзяржбюджэт амаль 250 мільёнаў рублёў.

Што і казаць, скубуць “Народную Волю” з усіх бакоў. І выжыць яна можа толькі з вашай дапамогай, шаноўныя чытачы. Наша місія — пісаць **праўду** (і ў гэтым вы нас не папракнеце), прапаноўваць вам з нумара ў нумар надзвычай актуальныя, цікавыя матэрыялы, падаваць іх у прывабным афармленні, па максімуму выкарыстоўваючы паліграфічныя магчымасці. А з вашага боку, дарагія прыхільнікі свабоднага слова, **чакаем актыўнасці падчас падпісной кампаніі, разумення захадаў рэдакцыі па наданні газеце сучаснага аблічча.** У тым жа мінулым нумары мы невыпадкова напісалі: “Самы прыгожы касцюм, пашыты здольнымі майстрамі, з цягам часу губляе прывабнасць, патрабуе ад гаспадара замены”. Так і з газетай!

Не так даўно мне давялося сустракацца з рэдактарам-легендай польскай прэсы, былым актывістам “Салідарнасці” Адамам Міхнікам. Падчас паўзы ён пацікавіўся:

— Аб чым так задумаўся, калега?

— А вось аб чым. Хочацца ведаць, калі “Народная Воля” будзе выдавацца ў такіх жа цывілізаваных умовах, у якіх цяпер выдаюцца ўсе газеты ў Польшчы, — сказаў я. І ў адказ пачуў філасофскае:

— Будзе, некалі будзе...

Вось дзеля гэтага “некалі”, дзеля яго набліжэння і выдаецца незалежная “Народная Воля”. Сёння мы яе апранаем у новы касцюм, заўтра, хочацца верыць, у новым строі будзе ўся Беларусь.

Гэтую думку я спрабаваў у мінулы аўторак давесці і да сваіх тэлефонных апанентаў. Шкада, калі яны мяне не зразумелі.

І ўсё ж застаюцца спадзяванні. На тое, што па выніках падпіскі на другую палову 2013 года мы не толькі не згубім ніводнага прыхільніка “Народнай Волі”, але іх у нас стане намнога болей. Руку на сяброўства, дарагія чытачы!

**Вы — з “Народнай Воляй”,**
**“Народная Воля” — з Вамі!**

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**галоўны рэдактар газеты “Народная Воля”.**

ЭКСПЕРТЫЗА

## Прывід дэвальвацыі

Эксперты Міжнароднага валютнага фонду лічаць, што абменны курс беларускага рубля завышаны. Ды і не на малую лічбу — ажно на 11 працэнтаў.

МВФ парэкамендаваў уладам Беларусі прытрымлівацца палітыкі гнуткага абменнага курсу, абмежаваць рост заробкаў узроўнем інфляцыі і больш актыўна праводзіць структурныя рэформы замест абвешчанай мадэрнізацыі. Але ў сувязі з абнародаванай лічбай адразу ўзнікла пытанне: ці будзе чарговая дэвальвацыя? Бо ўсім зразумела, што штучна падтрымліваць валютны курс, пускаючы на гэта валютныя рэзервы, — палітыка не самая лепшая. Дый рэзерваў не так шмат. Па прагнозах усё таго ж МВФ, да канца года яны скароцяцца да 6,9 мільярда долараў.

ТЭНДЭНЦЫІ

## За аднапакаёўку — больш за 300 долараў

*Цэны на арэнднае жыллё ў сталіцы працягваюць расці. Што будзе напярэдадні новага навучальнага года, калі жыллё пачнуць шукаць студэнты?*

Сёння сярэдні кошт арэнды аднапакаёвай кватэры ў Мінску складае 323 долары, хаця яшчэ ў красавіку аднапакаёўку можна было зняць у сярэднім за 300 долараў. За “двушку” сёння просяць у сярэднім 428 долараў (у красавіку — 412), за трохпакаёвую кватэру — 559 (552 у красавіку).

Рыэлтары ўпэўнены: да канца лета гэтыя цэны ўжо не будуць здавацца такімі высокімі, таму што сітуацыя на рынку арэнднага жылля стане яшчэ горшай — жыллё пачнуць шукаць студэнты. Па словах сталічных рыэлтараў, сёння ёсць прыклады, калі ўладальнікі кватэр выганяюць сваіх кватарантаў, каб да канца лета здаць гэтую ж жылплошчу ў 1,5—2 разы даражэй.

Аднак некаторыя эксперты рынку жылля супакойваюць: кошты вырастуць нязначна. *“Коштам проста няма куды расці — яны цяпер дасягнулі свайго піку,* — заявіла інтэрнэт-рэсурсу realt.by намеснік дырэктара агенцтва нерухомасці **Валянціна Сянчыхіна.** — *Нязначны сезонны рост кошту арэнды скончыцца ўжо да кастрычніка, калі знізіцца ажыятажны попыт на кватэры. Менавіта ў гэты час цэны на рынку арэнды знізяцца, прыходзячы ў свой нармальны стан”.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

АТЫ-БАТЫ



# Зачем нам нужен российский военный контингент?

Размещение в Беларуси российской авиационной базы не должно вызывать негативной реакции со стороны других стран. Об этом заявил журналистам госсекретарь Союзного государства Григорий Рапота, который в четверг провел встречи в Минске.

“Эта вещь нормальная. Такая интеграция есть и в Западной Европе в той или иной форме. И никто не ставит вопрос законности этих вещей”, — сказал он. При этом он отметил, что лишь когда это приобретает какую-то угрожающую форму, тогда со стороны, к примеру, российского правительства, следует возмущение. “Поэтому надо признавать право на консолидацию”, — отметил Рапота.

Напомним, что в последнее время министр обороны России Сергей Шойгу дважды посещал Беларусь, и оба раза говорилось о создании у нас российской авиабазы. В Беларусь уже прибыли российские рекогносцировщики во главе с главкомом ВВС России, задача которых — подобрать подходящий аэродром. Ожидается, что для этого им понадобится две-три недели. Уже в этом году в Беларуси должна появиться российская авиационная комендатура и первые самолеты. По крайней мере такие планы озвучивал российский министр.

Впервые о новой российской военной базе стало известно 23 апреля, когда в Минске прошли переговоры министра обороны России Сергея Шойгу с его белорусским коллегой Юрием Жадобиным и Александром Лукашенко. Говоря о создании российско-белорусской региональной системы противовоздушной обороны, Шойгу пояснил, чем готова заплатить Россия за лояльность Минска: “Уже в 2014 году Россия поставит четыре дивизиона С-300 для защиты воздушного пространства Беларуси”.

Никаких возражений от Александра Лукашенко тогда не прозвучало. Однако спустя три дня он озвучил Москве встречные условия.

26 апреля белорусский президент сказал журналистам: “Что касается авиационной базы — может, это прозвучало как база. Нет. Речь идет о поставке в наши Вооруженные силы, в какой форме — мы будем договариваться. База это будет, или мы в существующие части поставим российские самолеты-истребители. Этот вопрос обсуждается. (...) Мне сегодня надо пару десятков самолетов, а покупаем мы российские самолеты Су-27, МиГ-29 или более современные, чтобы обеспечить неприкосновенность границ нашего государства. Мне, как главнокомандующему, сегодня не хватает два десятка современных самолетов”.

В начале мая, выступая перед министрами обороны стран СНГ, глава Беларуси подтвердил свои претензии. “Даже если у нас чего-то не хватает и что-то не получается, а вы знаете, что и у России есть проблемы, но мы всегда требуем, чтобы Россия обращала внимание на то, что происходит в Беларуси, — сказал Лукашенко. — Мы просим и требуем от России поставки новых вооружений, именно таких, какие существуют в армии России. Я говорю “требуем”, потому что это дает нам право как равноправному партнеру с нашими братьями-россиянами действовать в едином ключе”.

После этих слов буквально на следующий день в Минск на переговоры вылетел глава Совбеза Николай Патрушев, чтобы “обсудить перспективы развития сотрудничества в оборонной сфере”. Видимо, стороны договорились.

**Игорь МОРОЗОВ.**

### КСТАТИ

Авиабаза будет уже третьей российской военной базой на территории нашей страны.

Первая — радиолокационная станция “Волга” в Ганцевичах. Она входит в состав системы предупреждения о ракетном нападении и поставлена на боевое дежурство в октябре 2003-го. Россия арендовала данный участок земли до 2020 года с правом продления.

Второй объект — 43-й узел связи ВМФ под Вилейкой. Это база дальней специальной радиосвязи, она обеспечивает связь Главного штаба ВМФ с атомными подводными ракетоносцами, несущими боевое дежурство в Атлантическом, Индийском и Тихом океанах. Именно через Вилейку в случае начала ядерной войны пойдет приказ на пуск ядерных ракет с российских подлодок.

## На ўборачную банкі дадуць 380 мільёнаў долараў

Урад Беларусі зацвердзіў план фінансавання ўборачнай кампаніі ў 2013 годзе. Сумарна на гэтыя мэты дзяржбанкі павінны накіраваць амаль 3,3 трлн рублёў, альбо 380 млн долараў у эквіваленце.

Саўмін вызначыў канкрэтную суму для кожнага банка. А на ўсю гэтую суму прадастаўляюцца ўрадавыя гарантыі на пагашэнне асноўнага доўгу па крэдытах. Урад, праўда, не прадаставіў гарантыю па гэтых крэдытах, але ўсклаў персанальную адказнасць за іх вяртанне на кіраўнікоў арганізацый, старшыняў аблвыканкамаў, міністра сельскай гаспадаркі і харчавання і намесніка прэм’ер-міністра, які курыруе пытанні АПК.

БЕЛАРУСЬ—УКРАІНА

## Праз два гады

Перамовы Лукашэнкі і Януковіча адбудуцца 18 чэрвеня. Гэта будзе першая афіцыйная сустрэча кіраўнікоў Украіны і Беларусі за два гады, хаця неафіцыйна яны сустракаюцца значна часцей.

Як паведамляюць дыпламаты, у ходзе перамоў кіраўнікі дзвюх краін маюць намер абмеркаваць пытанні гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. На думку крыніц, блізкіх да адміністрацый прэзідэнтаў Беларусі і Украіны, Януковіч і Лукашэнка абмяркуюць таксама праблемныя пытанні двухбаковых адносін. Сярод такіх — пытанне аб перадачы беларускім бокам ратыфікацыйных грамат аб дэмаркацыі беларуска-ўкраінскай мяжы, што павінна азначаць юрыдычнае завяршэнне гэтага працэсу.

Нагадаем, афіцыйны Мінск да гэтага часу не перадаў ратыфікацыйныя граматы, спадзеючыся дамагчыся ад кіраўніцтва Украіны прызнання запазычанасці перад беларускім бокам. Памер доўгу з’яўляецца прадметам абмеркавання — агучвалася сума ў 80 мільёнаў долараў. Гэты доўг нібыта сфарміраваўся ў перыяд “парада суверэнітэтаў” савецкіх рэспублік: украінскія прадпрыемствы атрымалі аплату за прадукцыю, якую не паставілі беларускім партнёрам. Афіцыйны Кіеў не лічыць дадзеную запазычанасць сваім дзяржпоўгам і ўказвае на недапушчальнасць аб’яднання праблематыкі дэмаркацыі дзяржаўнай мяжы і спрэчак гаспадарчых суб’ектаў. Па крайняй меры, да нядаўняга часу пазіцыі бакоў былі такімі.

З НАГОДЫ

*Марыя ЭЙСМАНТ*



# Дыскрымінацыя

З урачом-траўматолагам горада Слоніма Іванам Шэгам адміністрацыя раённай бальніцы не працягнула кантракт. З 27 чэрвеня вопытны хірург можа застацца без працы.

Быццам бы ўсё чэсна, усё па законе. Урачу спаўняецца 60 гадоў, ён, маўляў, сыходзіць на заслужаны адпачынак, раней кантракт з ім быў заключаны да дасягнення пенсіённага ўзросту.

Але ўсе ведаюць: Шэгу звальняюць не з нагоды яго ўзросту, ад яго **збаўляюцца**, хаця працаваць няма каму. У мясцовай бальніцы і паліклініцы, як і па ўсёй краіне, дэфіцыт кадраў — не хапае ўрачоў амаль па ўсіх спецыяльнасцях. Траўматалагічная служба цэлага раёна застаецца без доктара. Калі ў раён і прышлюць па размеркаванні маладога ўрача, то не год і не два спатрэбіцца яму на тое, каб спазнаць усе тонкасці траўматалагічнай дапамогі. А ў Шэгі за плячыма вялікі стаж, вопыт і галоўнае — жаданне працаваць. Пацыенты, якім прыходзіў на дапамогу Іван Іванавіч, ужо арганізавалі збор подпісаў, каб пакінуць дасведчанага доктара на працы. Амаль тысяча чалавек падпісалася пад зваротам у Слонімскі райвыканкам, Гродзенскі аблвыканкам, Міністэрства аховы здароўя і ў Адміністрацыю прэзідэнта.

Думаю, адрасаты выбраны невыпадкова. Жыхары горада разумеюць: наўрад ці галоўны ўрач Слонімскай ЦРБ Юрый Пяцельскі самастойна прымаў рашэнне аб звальненні Івана Шэгі (якраз-такі спачатку ён збіраўся падоўжыць Шэгу кантракт). Хто-хто, а галоўны ўрач выдатна разумее, як цяжка арганізаваць якасную і даступную медыцынскую дапамогу пры дэфіцыце ўрачоў. Навошта ж секчы сук, на якім сядзіш? А Шэга, хоць цяпер і пенсіённага ўзросту, але гатовы і можа працаваць. Здавалася б, падоўжыў бы галоўны ўрач кантракт з пенсіянерам Шэгам — і ніхто б яму слова не сказаў. У беларускіх паліклініках кожны чацвёрты доктар — пенсіянер. Але ў Слоніме — асаблівы выпадак.

Хутчэй за ўсё на галоўнага ўрача націснулі. Магчыма, ён разважаў так: прыкрываў я Шэгу колькі мог, усё, хопіць, стаміўся. Шэга — сябра Партыі БНФ, чалавек з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, узначальвае каардынацыйны савет мясцовых дэмакратаў. То ён у мясцовы Савет дэпутатаў балатуецца, то вылучаецца кандыдатам на парламенцкіх выбарах, то арганізоўвае ў Слоніме мерапрыемствы да Дня Волі, да чарговай гадавіны Чарнобыльскай катастрофы і г.д. Адным словам, як бяльмо на воку раённага кіраўніцтва. А ўсе шышкі ад вышэйстаячых начальнікаў ляцяць у адрас галоўнага ўрача. Не будзе ў паліклініцы такога актывіста, як Шэга, — спакайней будзе адміністрацыі ЦРБ.

У любым выпадку такая сітуацыя — класічная для сучаснай Беларусі. Калі чалавек адкрыта крытыкуе ўладу, не хавае сваіх поглядаў, выходзіць на пратэстныя акцыі, значыць, ён нядобранадзейны, ад яго трэба пазбавіцца, звольніць з працы, выключыць з універсітэта... Настаўнік гісторыі Наталля Ільініч, акцёр Павел Харланчук, прафесар гісторыі Вячаслаў Швед... Усе ведаюць, што гэтыя прафесіяналы былі звольнены з працы “за палітыку”, хаця афіцыйнай прычынай у асноўным з’яўлялася непрацягненне працоўнага кантракта.

Вядома ж, фармулёўку “звольнены за палітыку” ні ў адной працоўнай кніжцы не прачытаеш. Але няцяжка здагадацца, што стаіць за звальненнем такіх людзей, як той жа Шэга. Замест таго каб стаць на іх абарону, чыноўнікі падпісваюць ганебныя загады аб звальненні (непрацягненні кантракта), прычым часцяком ведаючы, што іх прадпрыемствы, арганізацыі, установы пазбаўляюцца лепшых кадраў. Няўжо не дрыжыць рука? Не мучыць сумленне?

Не так даўно “Народная Воля” апублікавала інтэрв’ю з педыятрам з Віцебска Ігарам Пастновым. Ён скончыў Медуніверсітэт з чырвоным дыпломам, за 20 гадоў працы педыятрам меў толькі падзякі ў сваёй працоўнай кніжцы. Але вось ужо колькі часу ён у сваім родным горадзе вядзе сапраўдную барацьбу за медыцыну, раз-пораз нагадвае мясцовай уладзе пра хваробы аховы здароўя. І з ім таксама, як цяпер з Іванам Шэгам, не працягвалі кантракт, прычым двойчы. Апошні раз звольнілі з пасады педыятра-кансультанта фельчарска-акушэрскіх пунктаў Віцебскага раёна. Хаця на гэтым месцы ніхто працаваць не хацеў: нагрузкі велізарныя, а зарплата мізэрная. Пастноў пагадзіўся лячыць дзяцей за 1 мільён 800 тысяч заробку. Але нават там яму працаваць не далі. За Пастнова заступіліся бацькі маленькіх пацыентаў. І ўрача (магчыма, таму, што не з’яўляецца сябрам ніводнай апазіцыйнай партыі) усё-такі аднавілі на працы. Праўда, працуе ён цяпер не педыятрам, а ўрачом-псіхатэрапеўтам. І невядома, ці доўга яму дазволяць затрымацца на новым месцы, таму што ён не маўчыць і пра хваробы віцебскай сістэмы аховы здароўя па-ранейшаму кажа ўслых.

Ці яшчэ адзін прыклад. Настаўніцы гісторыі Наталлі Ільініч да гэтага часу няма месца ні ў адной школе Пухавіцкага раёна. А ў Наталлі таксама чырвоны дыплом — гістфака БДУ, больш за 20 гадоў стажу, вучні, якія перамагалі на раённых алімпіядах і паступалі на бюджэтныя аддзяленні лепшых універсітэтаў краіны без усялякіх дадатковых заняткаў з рэпетытарамі. Але яе таксама, не працягнуўшы кантракт, звольнілі з Талькаўскай сярэдняй школы пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года. І да гэтага часу яна не можа вярнуцца ў любімую прафесію. Наталля нават звярнулася праз газету да тых, хто меў дачыненне да яе звальнення — былой начальніцы Мінскага абласнога ўпраўлення адукацыі Таісы Данілевіч, якая стала дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, і былой начальніцы Пухавіцкага раённага аддзела адукацыі Таццяны Чарнышовай, якая зараз працуе ў абласным упраўленні адукацыі. Наталля наўрад ці верыць, што сумленне не дае ім спаць, але ўсё роўна кажа ім: “Калі ў вашай кар’еры ўсё так добра склалася, праявіце велікадушша, дапамажыце мне вярнуцца ў школу”. Але чыноўніцы маўчаць. Іх выбар зроблены?!

Да 27 чэрвеня засталося амаль два тыдні. У галоўнага ўрача Слонімскай ЦРБ Юрыя Пяцельскага яшчэ ёсць час прыняць іншае рашэнне і, магчыма, здзейсніць грамадзянскі ўчынак: пакінуць доктара Шэгу на працы. Ва ўсялякім разе сотні жыхароў Слоніма скажуць яму за такі ўчынак дзякуй. Але ці адважыцца?

БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

# Майра МОРА: За «Диалог о модернизации» отвечают сами белорусы

*Глава Представительства Европейского Союза в Беларуси ответила на вопросы БелаПАН о ходе реализации, проблемах и перспективах инициативы ЕС "Европейский диалог о модернизации с Беларусью" (ЕДМ).*



**— С тех пор как еврокомиссар Штефан Фюле провозгласил старт ЕДМ, прошло больше года. Многие критиковали проект за сырость, белорусские власти на сегодня вообще отказываются в нем участвовать. Очень похоже на фиаско, но тем не менее Евросоюз планирует новый этап. Не похоже ли это на сизифов труд?**

— Начнем с самого важного: любая модернизация станет возможной только в том случае, если ей дадут определение и претворят ее в жизнь сами белорусы. Европейский Союз, особенно новые страны-члены, у которых есть свежий опыт прохождения трансформаций и проведения преобразований, могут сыграть важную роль, но эта роль будет заключаться в передаче опыта. И второе по важности замечание: модернизировать только экономику, тем более в отрыве о мировых тенденций, невозможно.

Для Европейского Союза партнерство и диалоги — важные инструменты, которые помогают организовать взаимодействие и сотрудничество с третьими странами во множестве областей. В качестве примера можно привести "Партнерство для модернизации" ЕС—Россия, начало которому было положено в марте 2010 года. "Диалог о модернизации с Беларусью" начался в марте 2012-го.

Эти диалоги и партнерство помогают сторонам координировать, согласовывать свою политику, обеспечивать ее преемственность в долгосрочной перспективе. Наше партнерство с Россией позволило сторонам решить многие конкретные проблемы за очень короткий промежуток времени. Само собой, каждый такой диалог идет со своей скоростью. В соответствии с европейской политикой соседства успехи в проведении реформ определяют интенсивность сотрудничества по принципу "больше за большее".

**— А в чем новизна очередного этапа ЕДМ?**

— Мы надеемся, что новый этап "Диалога о модернизации" позволит участникам повысить свою квалификацию (например, посредством участия в тренингах), поможет белорусским экспертам установить контакты со своими коллегами в странах ЕС и будет содействовать проведению исследований и дискуссий по тематике модернизации. По нашему мнению, именно белорусские участники отвечают за "Диалог о модернизации", организуют и развивают его, и именно так и должно быть. Его можно было бы распространить на более широкий спектр вопросов, связанных с модернизацией, и подключить к нему многих заинтересованных участников со стороны Беларуси.

Также мы хотели бы продолжить знакомить белорусское правительство с основными сферами "Диалога о модернизации", принимая во внимание и продолжающиеся отраслевые диалоги Беларуси и ЕС. Сюда можно было бы включить и консультации с правительством по таким вопросам, как юстиция, реформа избирательного законодательства, права человека, управление в сфере экономики, торговля и инвестиции и так далее. Это помогло бы лучше понять, каковы нужды белорусского общества в сфере модернизации и какую поддержку может предложить ЕС, когда позволят политические условия.

Я хотела бы подчеркнуть, что именно и только белорусам решать, воспользоваться ли щедрым предложением ЕС для обеспечения стабильности и процветания посредством модернизации.

**— В начале года белорусский МИД разослал в страны ЕС неофициальную бумагу со своим видением "Диалога о модернизации". Какова судьба этих предложений?**

— Предложения Министерства иностранных дел Беларуси послужили началом обмена мнениями по этим вопросам на дипломатическом уровне. Мы с нетерпением ждем того времени, когда общество в целом сможет принять участие в этом обмене и сыграть в нем ключевую роль.

**— Представители белорусской политической оппозиции неофициально выказывают обиду, что их, мол, оттеснили от ЕДМ. Бытует мнение, что сегодня, когда Брюссель пытается нормализовать отношения с Минском, участие в проекте тех, кого белорусские власти считают "пятой колонной", действительно осложняет задачу европейской стороны. Но и отказаться от поддержки демократических сил Европа наверняка не может. Реален ли здесь компромисс?**

— Мы можем только радоваться возобновлению интереса со стороны белорусских политиков, выступающих за демократию, к выводам и заключениям экспертных групп, участвующих в "Диалоге о модернизации". По определению, любое конструктивное участие приветствовалось и приветствуется.

**— Некоторые аналитики убеждены, что нынешний белорусский режим не способен пойти на коренную модернизацию, не готов к радикальным экономическим, а тем более политическим реформам. И что плоды ЕДМ власти могут использовать весьма выборочно, односторонне, для консервации недемократической системы. Получается, что ЕС своей инициативой лишь оказывает услугу "последней диктатуре Европы"?**

— Чтобы между Европейским Союзом и белорусскими властями состоялся диалог, необходимо выполнить предварительное условие — освободить всех политических заключенных и восстановить их в правах. Когда это произойдет, мы должны будем "сверить часы", чтобы все стороны согласились, как понимать модернизацию.

Тот факт, что "Диалог о модернизации" предполагает использование опыта стран ЕС в прохождении переходных периодов и осуществлении трансформаций, автоматически ставит самое важное на первое место. В нашем понимании ключевой элемент модернизации — это реструктуризация экономики, которая обеспечила бы новые источники роста, и соблюдение Беларусью собственного законодательства и своих международных обязательств в сферах демократии, верховенства права, обеспечения фундаментальных прав и свобод. Опять-таки, говоря без обиняков, модернизировать одну лишь экономику невозможно.

Белорусские власти признают необходимость модернизации. Я надеюсь, они также согласны с тем, что в модернизации нуждается не только производственная база, но и общество в целом.

Изначально "Диалог о модернизации" задумывался только как этап подготовки совместного промежуточного плана. Мы надеемся, что сможем обсудить это с властями, когда политическая ситуация позволит это сделать. В прошлом было время, когда мы подошли к этому вплотную.

**— Россия продолжает давать Беларуси огромные дотации. Разве ЕС способен дать такие деньги? Белорусским же властям явно нужны материальные, финансовые выгоды, а не поучения на тему демократии. Поэтому вектор политики Минска многим кажется фатально предопределенным — на восток. Есть ли у ЕС политическая воля и ресурсы, чтобы переломить этот геополитический фатализм, втянуть Беларусь в свою орбиту? Надо ли это Брюсселю вообще?**

— Способен ли ЕС дать такие деньги? ЕС не считает, что такие деньги являются средством системной и устойчивой модернизации. ЕС по-прежнему готов улучшить и углубить свои отношения с Беларусью, но этому должно предшествовать улучшение ситуации с соблюдением Беларусью принципов демократии, верховенства права и прав человека.

Для ЕС Беларусь — важный сосед. Стоит отметить, что все страны "Восточного партнерства" за исключением Беларуси достигли значительных успехов в переговорах о подписании соглашений об ассоциации с ЕС.

Выбор, который Беларуси якобы следует делать между Востоком и Западом, был и остается ложным. Каждая страна вправе строить те союзнические отношения, которые наилучшим образом отвечают ее интересам, и участие в одном объединении не исключает участия в другом, если они основываются на совместимых правилах, ценностях и принципах.

Кроме того, в то время как Россия может реагировать гибче, помогая белорусским властям решать самые насущные проблемы, ЕС верит не в быстрые решения и срочный ремонт, а в осознанные и системные трансформации, которые могут обеспечить самостоятельное, надежное, устойчивое развитие экономики и общества и внести вклад в обеспечение стабильности в регионе и мире. "Диалог о модернизации" — это один из способов, посредством которого Беларусь может воспользоваться опытом и знаниями стран — членов ЕС.

**Александр КЛАСКОВСКИЙ.**

ПРИГОВОР

## По-тихому

Два судьи-взяточника, признанные Верховным судом виновными в коррупции, наконец освобождены от занимаемых должностей с формулировкой "в связи с вступлением в законную силу обвинительного приговора".

Первым еще в декабре 2011 года был задержан при получении взятки в своем служебном кабинете судья суда Бобруйского района и города Бобруйска **Арнольд Луканский.** Уголовное дело в отношении указанного судьи было возбуждено председателем КГБ, непосредственным расследованием занималось управление КГБ по Могилевской области.

15 февраля этого года Верховный суд признал судью Луканского виновным в совершении ряда преступлений, в том числе и в получении взятки, и приговорил его к 13 годам лишения свободы с конфискацией всего имущества и лишением права занимать должности в правоохранительных органах и судах сроком на пять лет.

Следующим в августе 2012 года в момент получения взятки силами КГБ был задержан судья суда Светлогорского района **Виталий Ващилин.** Уголовное дело было возбуждено председателем Следственного комитета. В конечном итоге судья Ващилин был обвинен в получении взяток, бездействии должностного лица, вынесение заведомо неправосудного судебного акта.

И вот наконец на этой неделе без лишнего шума поставлен окончательный крест на карьерах и судьбах уже бывших судей Луканского и Ващилина, их полномочия официально прекращены с формулировкой "в связи с вступлением в законную силу обвинительного приговора".

Интересно, что, по свидетельству очевидцев, обвиняемые судьи настаивали на своей невиновности, грубых процессуальных нарушениях со стороны КГБ, голословности обвинений, отсутствии доказательств совершения преступлений и своей вины, выражали недовольство качеством правосудия Верховного суда. Интересно, а как они поступали, когда восседали в судейских креслах?

РЭКОРД

## Хто капейкі лічыць, а хто мільярды аддае

Намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення падаткаабкладання фізічных асоб Міністэрства па падатках і зборах **Святлана Шаўчэнка** агучыла сумы найбольшага задэклараванага даходу, а таксама найбольшага падаходнага падатку па выніках 2012 года.

Так, самая вялікая сума падаходнага падатку склала 7 мільярдаў рублёў. Яна была выплачана жыхаром сталіцы. Самы вялікі задэклараваны прыбытак склаў 66 мільярдаў рублёў. Атрымаў яго наш зямляк дзякуючы продажу акцый.

Прозвішчы рэкардсменаў не разгалошваюцца, каб не прыцягваць да іх увагу крымінальных элементаў.

КАРУПЦЫЯ

## Бедныя яны, бедныя

Мы часта задаемся пытаннем: чаму так добра жывуць самыя розныя начальнікі, калі не такія ўжо прыбытковыя прадпрыемствы яны ўзначальваюць і не такая ўжо высокая ў іх заработная плата? Тым не менш яны ў стане купіць і сабе, і дзецям машыны, кватэры і шмат што іншае.

Вось чарговы прыклад ад Генеральнай пракуратуры, які праліване свет на тое, як гэта робіцца.

Як высветліла праверка, начальнік Упраўлення капітальнага будаўніцтва Узды ўзяў на сваім жа прадпрыемстве беспрацэнтную пазыку ў суме 51 мільён рублёў тэрмінам на пяць гадоў. Прычым на момант прадастаўлення пазыкі сям'я гэтага дзеяча ўвогуле не мела патрэбы ў паляпшэнні жыллёвых умоў, на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў па месцы жыхарства і працы ён не знаходзіўся. Тым не менш пазыка была атрымана на будаўніцтва ў Мінску кватэры для дачкі.

У выпадку скасавання працоўнага дагавора з КУП "УКБ-Узда" начальнік прадпрыемства быў абавязаны на працягу пяці дзён вярнуць нявыплачаныя грошы ў поўным аб'ёме (хаця і без усялякіх працэнтаў). Аднак пасля скасавання кантракта не выплачаная былым кіраўніком сума пазыкі ў памеры 26 мільёнаў рублёў была проста спісана за кошт прыбытку прадпрыемства. Нібыта прадпрыемства яму, беднаму, аказала на гэтую суму матэрыяльную дапамогу з-за часовага цяжкага матэрыяльнага становішча.

Пасля ўмяшальніцтва пракуратуры доўг ужо пагашаны, крымінальная справа не ўзбуджалася. Але хто яшчэ, акрамя начальства, можа правярнуць такую афёру?

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Сяргей РУТЭНКА: «Славенцы ведаюць мяне як аблупленага»

*Ігрок гандбольнай зборнай Беларусі і іспанскай "Барселоны" Сяргей РУТЭНКА распавёў "Народнай Волі", ці ёсць у гэту нядзелю шанцы ў нашай каманды заваяваць пуцёўку на чэмпіянат Еўропы-2014.*



12 чэрвеня беларуская гандбольная зборная перамагла ў Мінску ў матчы адборачнага турніру чэмпіянату Еўропы каманду Ісландыі — 29:23. Зрэшты, ісландцы датэрмінова занялі ў групе першае месца, а таму на гульню не прыехалі сем ігракоў асноўнага складу.

Але рашаючы матч адбудзецца 16 чэрвеня, калі зборная Беларусі згуляе ў Любляне супраць зборнай Славеніі. Нашу каманду задаволіць нічыя ці перамога.

Дарэчы, на гульню з ісландцамі беларусы выйшлі без сваёй галоўнай зоркі, іграка іспанскай "Барселоны" **Сяргея Рутэнкі,** які закінуў 45 мячоў з 125 галоў нашай зборнай у адборачным турніры. Апошні назіраў матч з лаўкі...

— Цяжка, калі ты знаходзішся побач з камандай, а нічым дапамагчы ёй не можаш, — прызнаецца Сяргей. — Але вынік атрымаўся добры, таму ўсе мае перажыванні апраўдаліся.

**— Нешта падказвалі ігракам са свайго месца?**

— Не без гэтага, была магчымасць перакінуцца словамі з хлопцамі.

**— Ваш брат закінуў у матчы тры мячы. Гульня Дзяніса парадавала?**

— Нармальна згуляў.

**— Кажуць, што галоўны трэнер вырашыў пабергачы вас на рашаючы матч са славенцамі. Гэта так?**

— "Пабергачы" — гэта крыху не тое слова. Я, натуральна, не мог гуляць пасля траўмы і толькі ў дзень матча з ісландцамі ўпершыню патрэніраваўся па ўласнай праграме. Вельмі балелі нага і спіна.

**— Што здарылася ў Іспаніі?**

— У апошняй гульні Лігі чэмпіёнаў я з усяго маху паваліўся на спіну ў адным з гульнявых момантаў. Як бачым, адысці да гэтага часу не магу.

**— Але ў матчы з камандай Славеніі згуляеце?**

— Спадзяюся.

**— Якія шанцы ў каманд?**

— Думаю, у славенцаў крыху большыя шанцы, таму што яны гуляюць дома. Але нам Славенія па зубах. І гэтым усё сказана.

**— Вы ж самі раней гулялі за зборную Славеніі...**

— Так, яны мяне ведаюць як аблупленага.

**Алесь СІВЫ.**

СІТУАЦЫЯ

# Абураюцца. Моўчкі




У інтэрнэце з'явілася аб'ява, што іпэшнікі сталічнага гандлёвага цэнтра маюць намер падтрымаць віцебскіх калег, якія выступілі супраць увядзення новых правілаў афармлення сертыфікатаў.

Карэспандэнт "Народнай Волі" выправіўся да патэнцыяльных бунтаўшчыкоў, каб з вока на вока высветліць іх настрой.

Але спачатку — пра сутнасць праблемы, якая абрынулася на іпэшныя галовы. Вось як абмаляваў яе эканаміст, намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Леў Марголін:** *"Дапусцім, ІП прывёз дзясятак вырабаў. Каб іх прадаць па законе, ён павінен атрымаць сертыфікат, а для гэтага неабходна правесці выпрабаванні прывезенага тавару. Іншымі словамі, з дзесяці кофтачак пяць трэба аддаць у сертыфікацыйны орган, пры гэтым дзве з іх падчас экспертызы будуць знішчаны. Дадайце сюды тое, што іпэшніку прыйдзецца выкласці некалькі мільёнаў за саму экспертызу і пацвярджэнне сертыфікату. Адпаведна і цэны на тавары падскочаць у тры-чатыры разы..."*

Першымі на новаўвядзенне — абавязковае выкананне ўмоў тэхрэгламенту — адрэагавалі віцебскія камерсанты. 6 чэрвеня яны правялі аднадзённы страйк: да 90 працэнтаў гандлёвых кропак горада апусцілі свае ралеты. Пратэстнай акцыяй віцебскія прадпрымальнікі хацелі толькі прыцягнуць увагу мясцовай улады: ну немагчыма, фінансава непад'ёмна дробнаму гандляру выканаць тое афармленне сертыфікатаў. Калі, напрыклад, іпэшнік завёз свой тавар з Расіі, ён разам з таварам атрымлівае і адпаведны сертыфікат РФ, але дома павінен яго пацвердзіць — і за такую "ласку" выкласці яшчэ 1 мільён 200 тысяч рублёў. Прычым за кожную партыю тавару (хоць тая партыя не перавышае 5—10 адзінак). У выніку, каб захаваць мінімальны асартымент на гандлёвай кропцы плошчай 6 квадратных метраў, неабходна выплаціць за афармленне сертыфікатаў... каля 60 мільёнаў рублёў. Канечне, усё гэта і падштурхнула віцябчан бразнуць ралетамі сваіх шапікаў-павільёнаў.

Варта адзначыць, што пратэст мясцовых гандляроў не быў спантанным, і да страйку яны "праелі плеш" кіраўніцтву вобласці, органам нацыянальнага Дзяржстандарту, дэпутатам усіх узроўняў, нават Адміністрацыі прэзідэнта. Толькі звароты іхнія ніякага выніку не мелі. "Страйкануўшы" адзін разок, віцебскія іпэшнікі папярэдзілі: калі да 1 ліпеня ўмовы афармлення сертыфікатаў не будуць зменены, то 85% ІП Віцебска вымушаны будуць прыпыніць сваю дзейнасць. Але ці падтрымае акцыю віцябчан дробнае гандлярства ўсёй краіны, у тым ліку сталіцы, — правілы ж для ўсіх роўныя?..

І вось — "Экспабел"... "Інспектую" другі паверх аграмадзіны, "акупіраваны" сталічнымі іпэшнікамі. 360 гандлёвых кропак, сярэдзіна дня, пакупнікоў мала. Адны прадаўцы заняты красвордамі-рэбусамі, іншыя перамолваюць навіны дня і свае клопаты. Заходжу ў адзін такі стандартны "міні-маркет", дзе вывешаны мужчынскія гарнітуры, гальштукі і ўсё астатняе. Гаспадыня (назвалася Людмілай, але прозвішча прасіла не друкаваць) пагаджаецца на размову.

*— У нас з мужам два павільёны,* — кажа. — *Але калі і далей дзяржава будзе закручваць гайкі сваімі рэгламентамі, то мусім перабрацца ў Расію. Там усё прасцей, танней і прыбытковей. Больш няма ніякай моцы трываць, нам ужо паступіла такая прапанова...*

— А чаму б тут, на радзіме, не пастаяць за свае інтарэсы? Вунь жа віцебскія калегі спрабуюць пратэставаць, чым вы горшыя? — закідваю крамольна-правакацыйнае пытанне.

*— Ой не, даражэнькі! Праходзілі ўжо гэтыя пратэсты, але нічога і ніколі путнага з таго не атрымлівалася. Я вось карэнная мінчанка, у камерцыі не першы год, і скажу вам наступнае: тут кожны сам за сябе, баіцца нос вытыркнуць. Хоць кожны — як і мы з мужам — незадаволены парадкамі. Вось такі... ціхі пратэст. А чаму? Паспрабуй вытыркніся — то ўмомант знойдуць зачэпку, каб са свету зжыць... Мы ж усё разумеем: і што афармленне тэхрэгламентаў — яшчэ адна пятля на шыю, і што абдзіралаўка, і што чарговая ўдушылаўка. Я толькі аднаго не магу ўцяміць: няўжо дзяржаве выгадна ўсё гэта? Колькі можна прыцiскаць?!*

Прашу спадарыню Людмілу канкрэтызаваць, у чым тая "ўдушылаўка"...

*— За адну толькі арэнду 12 "квадратаў" плачу 7 мільёнаў рублёў, дадай падаткі... А мытныя зборы! Мы ж рэгулярна ездзім за таварам — у Расію, у Польшчу, у Германію... Толькі адзін прыклад: палякі, як вязуць тавар з Германіі, на мытні выкладваюць 1—2 долары за адзінку, а мы — у дзясятак разоў болей... Цяпер вось гэтыя рэгламенты — значыцца, выдаткі яшчэ большыя. А цэны далей павышаць ніяк нельга, бо і так — сам бачыш — пакупнікоў не густа. Крычаць, абураюцца, маўляў, дарагія гарнітуры, а як па-іншаму, калі ўсе так і пнуцца зняць тры скуры з дробнага камерсанта?!*

— І ўсё ж ці падтрымаеце вы асабіста страйк віцебскіх калег, калі раптам яны бразнуць сваімі ралетамі? У інтэрнэце прадстаўнікі вашага гандлёвага цэнтра абвясцілі пра такі намер.

*— Ніяк на тое не падобна, бо сапраўдных лідараў няма. А галоўнае — усе нечага баяцца. Можа, там, у рэгіёне, сітуацыя прасцей выглядае ці яшчэ што, а тут баяцца — кожны сам па сабе... І гэтыя тэхрэгламенты праглынуць, і яшчэ якую трасцу... Летась прымусілі кожнага гандляра набыць для свайго павільёнчыка манекены... па 300 долараў. Спачатку ўспрынялі ў штыкі, абураліся, бунтавалі. Але што ў выніку? Роўненька пакуплялі тыя манекены — патрэбны яны каму ці не. Так і зараз будзе: паміж сабою пабурчым, паабураемся, і кожны пойдзе сваёй дарогай. Адны ў працяглы адпачынак сыдуць — таксама ж пратэст; іншыя — як мы з мужам — пачнем бізнес у Расіі. Хаця так не хочацца пачынаць усё спачатку ды яшчэ чорт ведае дзе...*

Усе мае далейшыя апытанні (у трох павільёнах) мала чым адрозніваліся ад тых, што выдала Людміла, нават танальнасцю — і была яна зусім не спецыяльная, хутчэй тыповая для цяперашняга дробнага гандляра...

Так што і не ведаю, хто анансаваў магчымы прадпрымальніцкі пратэст. Але хутчэй за ўсё нічога не будзе.

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

РЕЗОНАНС

# Дела Дмитрия Галко и Александра Ярошевича шиты белыми нитками

Публикации в "Народной Воле" о задержании Дмитрия Галко и Александра Ярошевича с последующим судом вызвали у меня профессиональный интерес и заставили взяться за перо. Представил "картину маслом" — два трезвых журналиста идут днем по столичному городу, несут сельхозпродукты и при этом *"оживленно размахивают руками, выражаются нецензурной бранью".* Оперативно подъехавшие спецназовцы в гражданской одежде пресекают хулиганскую выходку, доставляют задержанных в районный околоток, где оформляются протоколы, затем суд и 10—12 суток ареста в изоляторе на Окрестина. Так что это было? Торжество закона и справедливости?

Даже незнакомый с административным правом читатель легко поймет: действия сотрудников милиции и суда в данном случае далеки от слова "право". Галко называет другое слово — беспредел. А это слово из жаргона невинно осужденных, которое Дмитрий хорошо усвоил за время нахождения за решеткой. Говоря простым языком — беззаконие. Если бы такой беспредел начался и закончился случаем с нашими журналистами... Вспомним беспредел на площади Независимости в декабре 2010 года. Чистейшая выдумка власти о массовых беспорядках, творимых "пятой колонной", так называемыми "свядомыми" и их сообщниками. Достаточно просмотреть выпуски теленовостей из Англии, Франции, Швеции за последние дни. Там демонстранты забрасывают камнями полицию, громят магазины, поджигают автомобили. А у нас был спектакль для официальных средств массовой информации. Затем некоторых "организаторов массовых беспорядков" отправили по этапу исправляться в колониях, многие присутствующие на площади попали на сутки в изоляторы Минска и других ближайших городов. Настоящий беспредел-2010.

По долгу службы пришлось однажды держать в руках прежде секретное дело одного из российских провинциальных отделов НКВД. Обвинялся в КРД (контрреволюционной деятельности) кочегар котельной. Расследование вел... старший сержант НКВД. Само дело по объему было не больше тетради ученика первого класса. Приговор "тройки особого совещания" (не суда в нашем понимании) состоял из половины страницы из той же тетради, разделенной по вертикали. Левая сторона приговора вмещала текст обвинения, правая — сам приговор. Можно догадаться, что в лагерь малограмотного кочегара система не отправила — расстреляли. А сколько подобных дел в архивах! Беспредел 1930-х годов. Что касается двух наших журналистов, то их дела еще меньше по объему, чем безвинного кочегара. И наказание несоизмеримо. Но беспредел-2013 от этого не становится мягче. Ведь не мог судья Е.Хаткевич не видеть нестыковки в показаниях свидетелей-спецназовцев. Галко нашел путаницу в шести эпизодах показаний. Проведи судья более глубоко и непредвзято допросы, объективно оценив собранные доказательства, эпизодов-путаниц было бы еще больше. А ведь все нестыковки-сомнения должны трактоваться в пользу задержанного. Но увы — призрак приснопамятного военюриста Ульриха из далекого 1937-го все еще витает в судебных кабинетах и залах заседаний. Как и тени Ежова—Берии—Цанавы в органах МВД, а Вышинского — в прокуратурах республики. "Наводки" на независимых журналистов (и не только на них) стали обычной практикой силовых структур. Пишущая-снимающая братия страдает не только у нас. Недавно в Киеве во время митинга оппозиции журналистов избили молодчики в спортивной одежде. Теперь разбирается и милиция, и Верховная Рада. В других горячих точках журналистов вообще могут похитить или убить. Даже в *памяркоўнай Беларусі,* как в случае с Дмитрием Завадским. А в отношении широко известных похищенных политиков Ю.Захаренко, В.Гончара и попавшего "под раздачу" А.Красовского следствие по возбужденным уголовным делам тлеет почти 15 лет. А вскоре и вообще потухнет за истечением срока давности. Вот бы в этих случаях проявить свой опыт и прыть правоохранительным органам. Что, не могут? А может, им не дают возможности?

Поскольку профессия независимого журналиста стала у нас в стране опасной, посоветую Галко с Ярошевичем сменить жанр своих публикаций. Сейчас началась уборка зеленых кормов, затем придет черед битвы за урожай. Рапорты с полей принесут вам более весомые гонорары от государственных периодических изданий. Не беда, что немало запасенных на зиму кормов испортится в результате плохих условий хранения в колхозах-совхозах, а после рекордных сборов зерновых автоматически подскочит цена на хлебобулочные изделия в магазинах. Зато за публикации на аграрную тему ни у кого не возникнет желания делать "наводку" на лояльного для власти корреспондента. Тем более "прессовать" его в казематах Окрестина или "американки". Но такой совет Дмитрий с Александром могут принять за шутку.

В общем, дела журналистов шиты белыми нитками. Иначе не скрывались бы за заборами базы доблестные спецназовцы, не исчезал бы от журналиста за дверью судья. Понимают всю абсурдность ситуации и в МВД, где ссылаются на постановление суда. В суде, конечно, ссылаются на материалы милиции. И где "око государево" — прокуратура, надзирающая за исполнением законов?

Как говорится, Иван кивает на Петра, а Петр кивает на Ивана. Удобная позиция.

В заключение совет сотрудникам милиции, оформляющим протоколы на задержанных мелких хулиганов. Следует изготовить штампики по примеру ильфо-петровского директора Полыхаева с текстом: "Размахивал руками и выражался нецензурной бранью". Штампанул в протокол — и записывать не нужно. В суде пройдет.

**Валерий Иванович КОЗУБОВ, ветеран труда, экс-судья суда Советского района Гомеля.**

ДЫСКУСІЯ

*Дарагі Іосіф Паўлавіч!*

*Дзякую Вам за тое, што газета “Народная Воля” ўзняла актуальнае і важнае пытанне пра стан і далейшы лёс беларускай навукі, якое хвалюе грамадскасць краіны і асабліва навукоўцаў. Я і мае калегі многа разоў выступалі і пісалі на гэтую тэму (асабліва пра навуку аб Зямлі) у НАН Беларусі, Мінпрыроды і нават у Савет міністраў РБ, але станоўчых вынікаў атрымлівалася зусім мала. Таму вельмі правільна, што праблемы навукі выносяцца на больш шырокае абмеркаванне. Прашу надрукаваць мой артыкул, каб падтрымаць разумныя думкі і прапановы, якія ўжо выказалі вучоныя ў Вашай газеце.*

***З павагай —***

**Р.ГАРЭЦКІ.**

*Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік НАН Беларусі, замежны член РАН*

# Дыктат і навука — рэчы несумяшчальныя!



Росквіт навукі ў Беларусі прыйшоўся на той савецкі час, калі першым сакратаром ЦК КПБ быў П.М.Машэраў, а прэзідэнтам АН БССР — акадэмік М.А.Барысевіч. У час перабудовы ў сувязі з эканамічным крызісам знізілася фінансаванне навукі, у шэрагу кіраўнікоў дзяржаўных структур з’явілася думка аб ліквідацыі Акадэміі навук і перадачы яе інстытутаў ва ўніверсітэты і міністэрствы. Але навуковая супольнасць на чале з Прэзідыумам АН Беларусі ў той цяжкі час захавала Акадэмію навук як адну з найлепшых арганізацыйных форм. Яна заставалася флагманам беларускай навукі, вядомай у краінах СНД і свету. Апошнім прэзідэнтам АН Беларусі, які абраны адпаведна існуючаму тады Статуту самімі вучонымі, быў акадэмік Аляксандр Вайтовіч. Але такая занадта дэмакратычная сістэма, якая існавала яшчэ з самага пачатку стварэння Беларускай акадэміі навук, не падабалася сённяшняму кіраўніку нашай краіны, бо яна пярэчыла пабудове камандна-адміністрацыйнай “вертыкалі”. Тады ён перавёў А.Вайтовіча на іншую пасаду, пакінуўшы на 9 месяцаў Акадэмію без кіраўніка, і нарэшце сваім указам нечакана прызначыў старшынёй Прэзідыума АН Беларусі кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта РБ Міхаіла Мясніковіча, які незадоўга да таго атрымаў навуковую ступень доктара эканамічных навук.

Новы кіраўнік АН Беларусі пачаў бясконцыя, часта неразумныя рэфармаванні шляхам стварэння сваёй навукова-адміністрацыйнай “вертыкалі”, “навукова-практычных цэнтраў”, аб’яднанняў, інавацыйных прадпрыемстваў, будаўніцтва ферм, заводаў і іншага, прычым часта гэта рабілася фармальна, абы выканаць загад перабудаваць Акадэмію навук у “навукова-вытворчую карпарацыю”. У хуткім часе ўзнікла такое ўражанне, што Мясніковіч прыйшоў з мэтай не палепшыць працу ў Акадэміі, а разбурыць і зрабіць з яе нешта падобнае да Міністэрства навукі. Цяпер з артыкула “Рэформа Мясніковіча” відаць (гэта ён сам пацвердзіў), што тая думка была правільнай і *“близкие по содержанию предложения предлагались мною в первые годы работы в Академии наук. Но были отклонены Администрацией Президента Республики Беларусь...”.*

Мясніковіч, як вопытны чыноўнік, так лоўка разбавіў Прэзідыум і Агульны сход Акадэміі рознымі прадстаўнікамі іншых дзяржаўных і навуковых устаноў, што ўсе яго прапановы (як правіла, адкрытым галасаваннем) прымаліся амаль аднагалосна. На ўсе кіруючыя пасады цяпер не выбіраліся, а прызначаліся. Ён нават хацеў правесці працэдуру выбараў членаў Акадэміі шляхам адкрытага галасавання на Агульным сходзе АН Беларусі, але тут атрымаў моцны супраціў акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў. Рэфармаваннем, а на самай справе імітацыяй “бліскучай” навукова-арганізацыйнай дзейнасці вертыкалі акадэмічнага чынавенства, Прэзідыум АН Беларусі і яе кіраўнік вельмі ганарыліся, пра што з іх падачы стракаталі дзяржаўныя СМІ. На самай справе ўсё прывяло да страшэннай бюракратызацыі, рэзкага падзення ўзроўню фундаментальнай навукі, аслаблення прыкладной, змяншэння фінансавання навукі, моцнага адтоку маладых кадраў і павелічэння сярэдняга ўзросту навукоўцаў, “уцечкі” мазгоў, агульнага падзення прэстыжу навукі. Відавочна стаў бачны крызісны стан навукі ў Беларусі.

Мне, як прадстаўніку навук аб Зямлі, асабліва балюча была амаль поўная ліквідацыя ў АН Беларусі геалагічных навук, у прыватнасці, шырока вядомага ў свеце Інстытута геахіміі і геафізікі, супрацоўнікі якога энергічна змагаліся за яго захаванне. Яны пісалі лісты і ў Прэзідыум НАН Беларусі, і ў Савет міністраў Рэспублікі Беларусь. Сутнасць іх зводзілася да таго, што ліквідацыя геалагічнай навукі ў Акадэміі прывядзе да немагчымасці сістэмнага вывучэння нетраў і сыравіннай бяспекі краіны, падрыхтоўкі навуковых кадраў вышэйшай кваліфікацыі ў галіне геалогіі, пошукаў і разведкі карысных выкапняў. Лісты да Мясніковіча аб захаванні Інстытута прыйшлі ад акадэміка **М.Л.Дабрацова,** акадэміка-сакратара Сібірскага аддзялення, віцэ-прэзідэнта Расійскай акадэміі навук; акадэміка **Ю.Г.Лявонава,** акадэміка-сакратара Аддзялення навук аб Зямлі і дырэктара Геалагічнага інстытута РАН; акадэміка **П.Ф.Гожыка,** дырэктара Інстытута геалагічных навук НАН Украіны, акадэміка **В.І.Старасценкі,** дырэктара Інстытута геафізікі НАН Украіны і іншых. Пытанні аб геалагічных навуках вырашаліся без іх абмеркавання з вучонымі. Нарэшце сабралі Аддзяленне хіміі і навук аб Зямлі, якое прагаласавала за тое, каб пакінуць Інстытут геахіміі і геафізікі ў НАН Беларусі. Нягледзячы на такую падтрымку Інстытута і пратэст супраць ліквідацыі, у канцы снежня 2007 года, калі адзначалі 80-годдзе стварэння Інстытута геалогіі ў Беларускай акадэміі навук, выйшла пастанова аб ліквідацыі Інстытута геахіміі і геафізікі НАН Беларусі і пераводу амаль усіх супрацоўнікаў і яго будынка ў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

На сесіі Агульнага сходу НАН Беларусі, якая адбылася ў красавіку 2010 года, М.У.Мясніковіч у сваім дакладзе адзначыў: *“Особое внимание в последнее время в стране уделяется освоению недр. Вношу предложение открыть отдельный инновационный проект, в рамках которого [...] добиться законченных, подчеркиваю, законченных научных рекомендаций и производственных технологий по разработке месторождений железа, золота, урана, бурого угля и сланцев. [...] Уже сейчас я сожалею, что не отстоял сохранение в составе Академии наук Института геологии и “Белгео”. Передача их в Министерство природы не дала стране нового качества. Скорее наоборот”* (“Веды”, 24.04.2010). Незразумелыя варыянты па стварэнні навукова-вытворчага цэнтра па геалогіі працягваюцца... Сучасны стан геалагічных навук у Беларусі (асабліва з боку кадраў) такі, што, каб узнавіць яго на былым узроўні, патрэбна будзе мінімум 10—15 гадоў і то пры асабліва спрыяльных умовах.

На ўручэнні навуковых дыпломаў і атэстатаў кіраўнік дзяржавы патрабаваў карэннай мадэрнізацыі Акадэміі і выказаў думку: *“Возможно, будет более целесообразно пойти по пути тех государств, где исследования сосредоточены в университетах, на предприятиях и дают реальный эффект”* (“Вечерний Минск”, 8.02.2012 г.). Вучоныя НАН Беларусі за подпісамі 22 акадэмікаў і 20 членаў-карэспандэнтаў на чале з былымі прэзідэнтамі Акадэміі навук у адказ паслалі яму ліст са сваім поглядам на стан і рэформы Акадэміі, якія блізкія да выказаных у артыкулах А.П.Вайтовіча і В.Ф.Логінава (“Народная Воля”, 9 красавіка 2013 г.). У лісце падкрэслівалася, што асноўныя задачы НАН Беларусі — атрыманне новых ведаў, выпрацоўка прапаноў па выкарыстанні новых ведаў, тэхналогій і шляхаў рэалізацыі гэтых прапаноў, удзел у рэалізацыі, навуковае забеспячэнне і навуковае суправаджэнне развіцця грамадства і дзяржавы (пытанні нацыянальнай эканомікі, беларускай мовы і літаратуры, культуры, гісторыі, права, прыродных рэсурсаў, экалогіі і інш.), ідэнтыфікацыя праблем развіцця краіны. Без фундаментальнай навукі няма будучага ў навукі, а без навукі — належнага будучага ў краіны. Як ва ўсім свеце, фундаментальныя даследаванні павінны поўнасцю фінансавацца з бюджэту. Інстытуты, якія ствараюць фундаментальныя веды ў галінах базавых і рэгіянальных навук (матэматыка, фізіка, хімія, біялогія і навука аб Зямлі), а таксама гуманітарныя інстытуты павінны застацца ў сістэме НАН Беларусі. Трэба спыніць практыку стварэння ў Акадэміі імітацыйных навукова-практычных цэнтраў. Неабходна развіццё новых сучасных распрацовак і тэхналогій тыпу суперкам’ютараў, ствалавых клетак, геннай інжынерыі і г.д. Нельга прызначаць дырэктарамі нявопытных кандыдатаў навук ці нават спецыялістаў без навуковых ступеняў. Неабходна больш актыўна рэалізоўваць комплекс мер, якія забяспечваюць павышэнне прэстыжу навукі ў краіне і замацаванне навуковых кадраў. Павысіць узровень экспертызы навуковых і навукова-тэхнічных праграм шляхам правядзення незалежнай экспертызы. У НАН Беларусі павінна адбыцца **дэмакратызацыя** прыняцця рашэнняў па развіцці тых ці іншых навуковых напрамкаў, структурных і кадравых пераўтварэннях. Трэба ўзнавіць рэальную выбарнасць кіраўнікоў хаця б на ўзроўні аддзяленняў НАН Беларусі і інстытутаў.

Стан і лёс навукі ў Беларусі выклікае ў грамадстве вялікае хваляванне, асабліва ў саміх навукоўцаў. Ужо больш за паўгода НАН Беларусі застаецца без старшыні Прэзідыума. Вырашыць гэтае пытанне можа толькі кіраўнік дзяржавы, бо гэтае права даўно адабрана ў навуковай супольнасці. “Народная Воля” своечасова ўзняла пытанне пра стан і лёс навукі ў Беларусі, надрукаваўшы вельмі актуальны і ў многіх думках правільны артыкул А.Вайтовіча і У.Логінава. Яшчэ больш усхваляваў артыкул “Рэформа Мясніковіча”, які выклікае вельмі шмат пытанняў па многіх напрамках. Галоўнае — ясна, што аўтар ліста імкнецца яшчэ больш наблізіць НАН Беларусі да Міністэрства навукі, яшчэ больш усю навуку падпарадкаваць волі чыноўніцкага апарату і непасрэдна кіраўніку і ўраду дзяржавы. Ідэал вучонага для Мясніковіча — гэта навуковец тыпу паслухмянага робата, які пакорліва выконвае ўсе заданні начальніка-чыноўніка ў навуцы. *“Ученых отстранили от политики, это правильно — пусть занимаются наукой, а члены Президиума Академии наук, как ученые и руководители научной сферы, должны быть публичными деятелями”.* Цікава, а як быць вучонаму ў галіне палітычных, эканамічных, ваенных, сацыялагічных і іншых навук, дзе без палітыкі цяжка абысціся? Але па сутнасці амаль усе такія магчымасці ёсць і пры сучасным становішчы НАН Беларусі, а ажыццяўленне прапаноў Мясніковіча прывядзе яшчэ да большага развалу навукі ў краіне. Рэзка адмоўныя думкі пра “рэформы Мясніковіча” выказалі ў друку многія навукоўцы, у тым ліку акадэмікі У.Логінаў, Г.Лыч, намеснік старшыні Прэзідыума акадэмік У.Гусакоў, былы вядомы арганізатар навукі Э.Васільеў і іншыя. Да іх можна далучыць і 42 аўтара ліста членаў Акадэміі да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Трэба ўважліва прыслухацца да тых у многіх сэнсах разумных прапаноў, якія выказаны ў пералічаных артыкулах.

Далейшая такая дзейнасць улад РБ можа прывесці да поўнага развалу сапраўднай навукі. Вядома, што без навукі нельга пабудаваць багатую краіну з перадавой эканомікай, народнай гаспадаркай, культурай. Неабходна вызваліць навуку ад моцнага адміністрацыйна-каманднага дыктату і даць ёй хаця б нейкую свабоду...

ПОЗИЦИЯ

## *Его нужно лишить белорусского гражданства*

Как коренной белорус, получил среднее образование на национальном языке. Но в институте я уже влился в “единый советский народ”. Вся моя дальнейшая жизнь была связана с русским языком.

Когда прочитал в “Народной Воле” статью Антося Усовича, окончательно понял: нужно возвращаться к своим корням, к своему родному слову. Меня обожгли слова некоего В.Дюкорева о том, что Беларусь — это русская земля и разговаривать надо только по-русски. Так может сказать только невежда, хам, тот, кто понятия не имеет о нашей истории, о нашей культуре. Это плевок в лицо народа, который его гостеприимно принял, обеспечил ему нормальную жизнь.

Считаю, что этот поступок, зафиксированный свидетелями, заслуживает немедленного рассмотрения правоохранительными органами и лишения В.Г.Дюкорова гражданства Республики Беларусь. Если так будет сделано, мы преподнесем поучительный урок всем другим, кто посягает на наши честь и независимость. Если же этот случай будет отнесен лишь к административному нарушению, то это будет свидетельствовать о пренебрежении со стороны властей к своему народу.

Одновременно обращаюсь к высшему руководству страны с просьбой о немедленной замене повсеместно красующихся стендов-плакатов “Беларусь — это мы” на “Беларусь — гэта мы!”. Это принципиально важно, ибо язык невольно подчеркивает, к какой стране это относится. Даже в мыслях нельзя допустить, чтобы в Москве подобные стенды-плакаты были сделаны на белорусском языке.

Создается впечатление, что у нас все делается для того, чтобы мы даже не задумывались о своей идентичности, о своей истории.

Низкий поклон А.Усовичу за его патриотизм и принципиальность в защите чести родной Беларуси.

**В.ШУТОВ, пенсионер.**

*г.Фаниполь.*

РЕЗОНАНС

# Новая политика должна строиться на диалоге властей с обществом

Выступая на страницах “Народной Воли”, Иван Анташкевич и Анатолий Левкович изложили свое видение того, как должна выстраиваться новая политика в современной Беларуси. Комментируя их публикацию, я хочу более детально раскрыть некоторые ее положения.

Сегодня наша страна находится в сложной ситуации как в политическом, так и в экономическом плане. Сохранить суверенитет и независимость молодого государства всегда очень сложно. Старые стереотипы постоянной зависимости, современные посягательства на экономическую базу страны, имперские замашки соседей, активизированная коричневая чума в виде неофашизма — все это тяжким грузом ложится на плечи белорусского народа. Новая политика должна строиться на постоянном диалоге властей с населением страны, т.е. при решении всех проблем необходимо учитывать мнение народа, его пожелания и предложения. Широкое обсуждение всех законопроектов даст возможность идти по пути демократизации и находить оптимальные решения возникающих проблем.

Диалог — это новое качество долговременной политики государства. В результате диалога возможна консолидация общества, что и будет способствовать решению накопившихся проблем, укрепит независимость, защитит и сохранит суверенитет. Действительно, “при таком подходе слово “модернизация” наполнится масштабным и более полным содержанием”.

Новую политику предложено начинать с изменения и дополнения Конституции. Для этого и нужен диалог, который раскроет разные мнения и предложения и будет способствовать принятию правильного решения.

В процессе диалога необходимо обсудить предложение о введении смешанной пропорционально-мажоритарной избирательной системы формирования парламента и местных Советов, прямых выборов руководителей городов, районов и областей.

В рамках диалога необходимо также обсудить вопросы о переходе к президентско-парламентской или парламентской форме правления, о структуре административно-территориального деления и о местном самоуправлении и т.д. Безусловно, парламентская форма правления является наиболее демократической. Она сможет защитить страну от авторитаризма, культа личности и будет способствовать консолидации общества.

Важнейшим моментом является вопрос о включении оппозиционных партий, общественных организаций в системный политический процесс. Опыт передовых стран показывает, что представители всех значимых конструктивных партий и организаций входят в парламент страны, в различные структурные подразделения на местах. Они являются необходимым элементом всех политических, экономических, социальных процессов, которые протекают в обществе. Только совместными усилиями они смогут помешать развитию деструктивных течений.

Эти и другие основные вопросы должны широко обсуждаться в обществе, что даст возможность перейти на новый этап развития страны, консолидировать население, внедрить демократические методы правления, решить политические, экономические и социальные проблемы, защитить суверенитет от посягательств со стороны различных сил, поднять престиж Беларуси на мировой арене.

Конечно, есть серьезные сомнения, что в настоящее время в коридорах власти эти предложения возьмут на вооружение. Однако позитивные предложения новой политики не могут оставить равнодушными многих представителей общественности. Это создает почву для широкого обсуждения предложенной стратегии и тактики.

**Лариса ШУКАЙЛО.**

*Могилев.*

ДЕЛА ЖИТЕЙСКИЕ

## *Такая математика*

В последние дни все газеты, захлебываясь, сообщают нам радостную весть — о снижении ставки рефинансирования.

Всё преподносится как забота о тех клиентах банков, которые берут у них деньги в кредит, ведь соответственно снижаются проценты по кредитам.

Действительно, тем, кто берет кредиты, — снижение ставки рефинансирования выгодно.

А вкладчикам банков? О них забывают, забывают о том, что деньги на кредиты идут со счетов вкладчиков!

А сколько у нас в стране вкладчиков? Думаю, что миллионы, что вкладчиков больше, чем тех, кто берет кредиты!

Поэтому при снижении ставки рефинансирования проигравших больше, чем выигравших!

К тому же кредиты лицам старше 60 лет банки не выдают. Значит, улучшается материальное положение более молодой части общества за счет пожилых людей, которые хранят на вкладах свои небольшие рубли на “черный” день!

Согласен, что ставки по кредитам надо снижать, но не за счет пожилой части общества, не за счет пенсионеров, а за счет прибыли банков, даже за счет бюджета!

**С уважением —**

**Лев Самсонович АНЦЕЛИОВИЧ, инвалид войны.**

*Минск.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## *Не збудуцца мары даяркі Тамары*

**Беларусь знаходзіцца сярод краін — лідараў па колькасці адмоў ва ўездзе ў Еўрасаюз. Прычым беларусам у асноўным адмаўляюць з-за таго, што ў іх недастаткова сродкаў для магчымага знаходжання ў ЕС.**

*З дзяцінства марыла Тамара*
*Наведаць хоць бы раз Парыж.*
*(Будзённая, так мовіць, мара,*
*Не бачыцца нічога звыш.)*
*Пабыць ля Эйфелевай вежы,*
*На вулках, дзе хадзіў Гюго,*
*Бо захаплялася без межы*
*Тамара творамі яго;*
*Зірнуць хоць раз на Мону Лізу,*
*Якую гэтак хваліць друк,*
*І пастаяць крыху паблізу*
*Тае Венеры, што без рук;*
*Па беразе прайсціся Сены,*
*Патрапіць у Булонскі лес;*
*І да Манмартра, несумненна,*
*Тамара мела інтарэс.*
*Было ў вясковае дзяўчыны*
*Жаданне грэшнае амаль,*
*Ды не з юрлівае прычыны:*
*“Пашвэндацца” па Пляс Пігаль.*
*“Парыж убачыць і памерці!” —*
*Выслоўе быццам для яе,*
*Таму ў такой жыццёвай мерцы*
*Памкненні бачыла свае.*
*Аднак, каб явай сталі мары,*
*Шмат грошай трэба, не сакрэт.*
*Прычым ці еўра, ці даляры*
*Запасіць след,*
*Каб “выйсці ў свет”.*
*Даяркай Тома працавала,*
*А ферма ў вёсцы — як турма...*
*Каб банк наведаць, часу мала,*
*На пошце ж еўра тых няма.*
*Як атрымоўвала палучку,*
*Дык хоць патроху, спакваля*
*Адкладвала купюры ў кучку —*
*Рубель, як кажуць, да рубля.*
*І мела гэткую задуму:*
*Распухне кучка пакрысе,*
*І банк ёй дасць валюты суму,*
*Як пук рублёвы прынясе.*
*Ды над рублём навіслі хмары —*
*Такой не ведаў ён бяды.*
*І з пука грошай у Тамары*
*“Пук” атрымаўся сапраўды.*
*Яе рублі — паперы коштам,*
*Нібы змяла запас мятла...*
*Аднак жа мары нізавошта*
*Тамара здрадзіць не магла.*
*Сказаў ёй хтосьці з сельсавета*
*(Ды мела ж і сама мазгі):*
*Каб дасягнуць жаданай мэты,*
*Абраць патрэбна шлях другі.*
*Цяпер рахунак для валюты*
*І банку ёй патрэбна мець.*
*Падстаў не будзе для пакуты,*
*Як над рублём навісне смерць.*
*І ўжо Тамара кожны месяц*
*У горад ездзіла да кас,*
*На пяць даляраў ці на дзесяць*
*Там папаўняла свой запас.*
*Вядома, ўнёсак небагаты,*
*Дый тога не было падчас:*
*Ці ж шмат “адкусіш” ад зарплаты,*
*Якую ёй плаціў калгас?*
*Аж цэлы год застаўся ззаду.*
*Адкінуўшы сумненняў груз,*
*Прыйшла Тамара ў амбасаду,*
*Дзе ветліва сустрэў француз.*
*Ён папрасіў даведку з банка,*
*Які валютны ёсць запас.*
*І тут яе неспадзяванка*
*Чакала сумная якраз.*
*Сказаў ёй іншаземец гэты:*
*— А мы вам візу не дадзім,*
*Бо грошай — толькі на білеты,*
*Дый тое*
*У канец адзін.*
*За што вы жыцьмеце ў гатэлі?*
*Дзе вашы сродкі для яды?*
*А мо ў Парыжы захацелі*
*Навек застацца, назаўжды?*
*Ды я ж упэўнены, што заўтра*
*З працягнутай рукой, на жаль,*
*Сядзецьмеце каля Манмартра*
*Ці пойдзеце на Пляс Пігаль,*
*Дзе прастытутак чэрці носяць...*
*Мне неўспадоб такі расклад.*
*У нас путан уласных досыць*
*І жабракоў таксама шмат.*
*Ну, словам, не адкрыю візу,*
*Хоць вы і зганіце мяне...*
*Не згледзіць Тома Мону Лізу*
*І на Венеру не зірне.*
*На сэрцы засталася рана,*
*Нібыта хтосьці кінуў глыж.*
*Памерці ёй наканавана,*
*Так і не ўбачыўшы Парыж...*

* * *

*Наш незайздросны лёс жабрачы,*
*У нас нібы кляймо на лбе:*
*Ні свету белага пабачыць,*
*Ні свету паказаць сябе...*

*Зварот сакратарыята ГА “ТБМ імя Ф.Скарыны” да грамадзян Беларусі*

# Беларуская мова пад пагрозай!

Мы вельмі занепакоены колькасцю ўдзельнікаў цэнтральнага тэсціравання па беларускай мове.

Калі на пачатку 2000-х гадоў ЦТ па беларускай і рускай мовах пісала прыблізна роўная колькасць абітурыентаў, то сёлета жадаючых здаваць ЦТ па беларускай мове амаль у два з паловай разы менш, чым тых, хто будзе пісаць экзаменацыйны тэст па рускай мове. Згодна з статыстыкай, на ЦТ па беларускай мове зарэгістравалася 33.564 чалавекі, а па рускай — 83.829 чалавек. Тэст па гісторыі Беларусі па-беларуску будуць пісаць менш за 20% абітурыентаў, а зусім нядаўна такіх было больш за 60%.

Адной з прычын такога становішча з’яўляецца пераход выкладання гісторыі Беларусі і геаграфіі ў школах з рознымі мовамі навучання з беларускай на рускую мову. Пасля адпаведных намаганняў ТБМ Міністэрства адукацыі “дазволіла” выкладаць гэтыя прадметы па-беларуску з улікам пажадання навучэнцаў, законных прадстаўнікоў непаўналетніх.

Паўплываць на сітуацыю magло б увядзенне абавязковай здачы ЦТ адразу па дзвюх дзяржаўных мовах.

Таму мы звяртаемся да ўсіх грамадзян нашай краіны, якія хочуць, каб беларускае слова свабодна гучала ва ўсіх сферах нашага грамадства з заклікам, зрабіць наступнае:

1.Накіроўваць свае лісты ў Міністэрства адукацыі з патрабаваннем зрабіць у наступным годзе абавязковай здачу ЦТ адначасова на абедзвюх дзяржаўных мовах.

2.Грамадзяне, якія маюць дзяцей-школьнікаў, могуць да 1 жніўня напісаць адпаведныя заявы на імя дырэктараў школ, каб выкладанне гісторыі Беларусі і геаграфіі для іх дзяцей праводзілася на беларускай мове, згодна з рэкамендацыямі Міністэрства адукацыі.

3.Абітурыенты, якія паступілі ў ВНУ і хочуць навучацца па-беларуску, могуць напісаць адпаведную заяву на імя рэктара падчас залічэння.

4.Бацькі, якія маюць малых дзетак, павінны загадзя паклапаціцца пра тое, каб даць сваім дзецям беларускамоўнае выхаванне і навучанне, звярнуцца ва ўстановы адукацыі з адпаведнымі заявамі напярэдадні навучальнага года, да пачатку жніўня.

Шаноўнае спадарства! Толькі захаваўшы сваю мову, мы можам захаваць сваю незалежнасць.

Быць сапраўдным гаспадаром у сваёй краіне і жыць годна можна, толькі шануючы родную мову, размаўляючы на ёй паўсюль і штодня!

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## *Зялёны? Можна не хвалявацца!*

***Апошнім часам у папярэджаннях сіноптыкаў пачалі гучаць такія словы: “аранжавы колер бяспекі”, “жоўты”, “зялёны”... Але што гэтыя колеры азначаюць?***

**Мая Вострыкава, Гомель.**

Сапраўды, з 1 чэрвеня Белгідрамет увёў каляровыя коды для ідэнтыфікацыі ступені небяспекі метэаралагічных з’яў.

Шкала кода складаецца з чатырох колераў, якія ўяўляюць сабой наступныя градацыі рызык прагназуемых з’яў надвор’я:

— зялёны — надвор’е няшкоднае, небяспечных і неспрыяльных з’яў не чакаецца;

— жоўты — надвор’е патэнцыяльна небяспечнае. “Жоўты ўзровень небяспекі” азначае, што чакаюцца неспрыяльныя з’явы надвор’я (ападкі, навальніцы, парывы ветру, высокія або нізкія тэмпературы і інш.) звычайныя для тэрыторыі краіны, але часам яны могуць прадстаўляць небяспеку для асобных відаў сацыяльна-эканамічнай дзейнасці;

— аранжавы — надвор’е небяспечнае. “Аранжавы ўзровень небяспекі” — на большай частцы тэрыторыі чакаюцца неспрыяльныя з’явы, месцамі — небяспечныя (шквалы, ліўні, навальніцы, град, спякота, маразы, снегапады, завеі і інш.), якія могуць негатыўна паўплываць на сацыяльна-эканамічную дзейнасць і прывесці да значнага матэрыяльнага ўрону, а таксама магчымы чалавечыя ахвяры;

— чырвоны — надвор’е вельмі небяспечнае. Калі сіноптыкі гавораць пра “чырвоны ўзровень небяспекі”, то чакаюцца метэаралагічныя з’явы экстрэмальнай інтэнсіўнасці (вельмі моцныя дажджы, буйны град, вельмі моцны вецер, надзвычайная пажарная небяспека і інш.), якія могуць выклікаць сур’ёзны матэрыяльны ўрон і чалавечыя ахвяры.

ОТКРОВЕННЫЙ РАЗГОВОР

*Надежда ОСТАПЧУК:*

# «Чем больше узнаешь людей, тем больше нравятся собаки...»

*Известная белорусская легкоатлетка **Надежда ОСТАПЧУК** откровенно рассказала “Народной Воле” о своем “допинговом деле”, о том, почему в свое время не уехала в Канаду и отчего сейчас не собирается оставаться в Беларуси.*

Десять месяцев прошло с того времени, как после Олимпиады в Лондоне грянул скандал с участием белорусской толкательницы ядра Надежды Остапчук. На Играх-2012 наша спортсменка завоевала золотую медаль, но в ее допинг-пробе обнаружили запрещенный препарат. Пикантность ситуации заключалась и в том, что было официально заявлено: тренер Остапчук Александр Ефимов добровольно признался, что это он добавил анаболик в еду спортсменки без ее ведома. Международная федерация легкой атлетики решение по этому делу до сих пор не вынесла.

Видно, что спортсменка уже отошла от первого шока, который испытала сразу же после Олимпиады. Сейчас в ее голосе все еще слышится некоторое разочарование, но это спокойное разочарование. За десять месяцев было время разложить все по полочкам. Кто друг, кто враг, кто просто так...

**— Надежда, чем занимались все это время?**

— Ничем особенным. Дружеские визиты к друзьям, родственникам...

**— Сложными были последние десять месяцев?**

— Как вам сказать?.. Сначала приходилось тяжело, затем наступила стадия абсолютного безразличия. Этому способствовало и бездействие белорусской стороны, наших спортивных функционеров. Если им наплевать, то почему я должна волноваться? Живу своей жизнью.

**— Сейчас ваш рабочий день — это?..**

— Встала, позавтракала, немного потренировалась, чтобы совсем форму не потерять. Своей подруге помогаю собаками заниматься. Заодно и вторая тренировка получается, потому что приходится побегать. Я и себе два месяца назад собаку завела — немецкую овчарку. Вот уж правду говорят: чем больше узнаешь людей, тем больше нравятся собаки...

**— Разочаровались в людях?**

— Те, в ком я была уверена, после допингового скандала только подтвердили свою дружбу. Но оказались и такие, которые предпочли формулу “моя хата с краю”. В принципе, ничего нового эта жизненная ситуация не показала. Так, наверное, всегда было, есть и будет. Но и я выводы для себя сделала. Во-первых, как таковой **Команды** в белорусской легкой атлетике нет. Есть просто сбор людей, которые выступают на соревнованиях. Попал в неприятную ситуацию — твои личные проблемы. Так что это не сборная, а сбродная команда. Во-вторых, я поняла, что в этой жизни кроме себя самой нельзя никому доверять. Никогда!

**— Сами вы уже знаете, как допинг попал в организм?**

— Догадываюсь, но без железных аргументов делать голословные заявления не буду.

**— Ваш тренер Ефимов, который якобы и подсыпал вам запрещенный препарат в кофе, интригующе заявил, что через некоторое время он сможет рассказать всю правду...**

— Мы общаемся с тренером, и моя точка зрения такова: это сделал не он. К нему у меня никаких претензий нет. Александр Николаевич прошел вместе со мной через огонь и воду, мать заменял...

**— А зачем тогда написал признательное письмо?**

— А вы подумайте — почему? Потому что защищает. Настоящий родитель всегда своего ребенка защищает. Не прячет голову в песок, как многие наши белорусские страусы, а именно защищает. Это для меня и тренер, и Человек с большой буквы. Был и останется.

**— Скоро год пройдет с тех пор, как начался этот скандал, а решения по делу пока нет. Почему так долго?**

— Самой хотелось бы знать. Наверное, большой список допинг-нарушителей. Может быть, перепроверяют информацию.

**— Что вам светит?**

— Без понятия.

**— В спорте останетесь, если наказание будет минимальным?**

— На 90 процентов, что в большой спорт не вернусь. Хотя, если подтвердятся некоторые предложения, возможно, поработаю тренером. Но не в этой стране. В Беларуси у меня уже нет ни к кому доверия. Есть еще один вариант — уйти к друзьям в бизнес. Но хотелось бы сначала в этой истории расставить точки над “і”.




**— Надежда, а раньше, когда были спортсменкой, не поступало предложений поменять гражданство?**

— Были и не раз. В 2001 году Канада очень хотела забрать и меня, и тренера. Тогда в Канаде проходил чемпионат мира, предложение поступило очень заманчивое. Но Александр Ефимов отказался, он всегда был патриотом. Как отказались от предложений и из других стран.

**— Может быть, надо было оставаться в Канаде?**

— Задним умом все мы умные. Какой смысл сейчас говорить о том, что было бы? Если бы я раньше знала о том, в какую ситуацию попаду, то поменяла бы и моменты, чтобы не сталкиваться с некоторыми нехорошими людьми.

**— Сегодня вы готовы к гражданской жизни?**

— Привыкаю. Рано или поздно, но из спорта все равно пришлось бы уходить.

**— Печально, что сегодня спорт все больше превращается в полигон для каких-то интриг, сведения счетов, подковерных игр...**

— И мне печально. Я вообще считаю, что сегодня в спорте бал правят деньги. Исчезает соревновательный момент... Да, идет борьба с допингом, но, как говорят, лес рубят — щепки летят. И всегда виноват спортсмен. Никого не интересует, как тот или иной препарат попал в твой организм. Сознательно ты его принимал или тебя подставили? Помогло тебе это вещество или наоборот? Да и сегодня один препарат можно принимать, а завтра — уже нет.

**— В Беларуси есть хорошие спортивные врачи-фармакологи, которые бы контролировали весь этот процесс? Возможно, тогда и не происходили бы у нас допинговые скандалы?**

— О чем вы говорите?! В сборной Беларуси по легкой атлетике не было врача, который бы мог проверить в лаборатории препараты для спортсменов. Сколько раз мы говорили о том, чтобы взяли на хорошую зарплату толкового специалиста, который оградил бы спортсменов от допинг-проколов. Как горох о стенку. У нас же врач мог разве что таблетку от головной боли выписать. В фармакологии он — темный лес. А крайние в итоге — спортсмены, которые вкалывали как проклятые, а затем оказались еще и виноватые.

**— Надежда, извините за нескромный вопрос: жили все это время вы за что?**

— За те сбережения, что успела накопить. Но уже начала делать небольшие инвестиции, это дает результат. Если что — не пропаду...

**Алесь СИВЫЙ.**

ОФИЦИАЛЬНО

## Александр Трощило, главный тренер сборной Беларуси по легкой атлетике:

— Известно, что Международная федерация легкой атлетики ИААФ продолжает расследование ситуаций, связанных с Надеждой Остапчук, Иваном Тихоном и Вадимом Девятовским. У Остапчук запрещенные вещества содержались в БАДах импортного производства, которые тогда были разрешены. Запрет на их использование последовал в 2007 году. Вот уже четыре месяца ИААФ хранит молчание, которое можно истолковать как замешательство. Поэтому сохраняются определенные надежды на благоприятный исход дела. Кроме того, мы ждем утверждения решения БФЛА о годичной дисквалификации за положительную допинг-пробу, взятую на Играх в Лондоне. Если это произойдет, Надя сможет вернуться в сектор.

ЯШЧЭ АДЗІН СКАНДАЛ

## Андрэй МІХНЕВІЧ: “Усё гэта настолькі мярзотна!..”

*Стала вядома, што беларускі штурхальнік ядра Андрэй Міхневіч дыскваліфікаваны пажыццёва за паўторнае ўжыванне забароненых прэпаратаў. Так вырашыла Дысцыплінарная камісія Нацыянальнага антыдопінгавага агенцтва.*

Аднак канчатковае рашэнне павінна быць зацверджана Міжнароднай федэрацыяй лёгкай атлетыкі.

— Для мяне было вельмі нечакана пачуць, што рашэнне аб маёй пажыццёвай дыскваліфікацыі прыняла беларуская камісія, — распавёў “Народнай Волі” чэмпіён свету і бронзавы прызёр Алімпіяды **Андрэй МІХНЕВІЧ**. — Мае тлумачэнні слухаць не захацелі, абараняць — таксама... Як сказалі мне: каб толькі ў наш бок не прыляцелі сякеры. Адным словам, вырашылі хутчэй пахаваць мяне без спробы абараніць. Усе ж баяцца ў першую чаргу за сябе. Быў не так даўно ў спартыўнай зале, дык некаторыя нашы спартыўныя начальнікі сярэдняй рукі нават не вітаюцца ўжо. Галовы адварочваюць. Учора, калі я даваў медалі і вынікі, прэміі за мяне атрымлівалі, а сёння грэбуюць нават руку падаць. Усё гэта настолькі мярзотна!.. На камісіі мне сказалі: “Навошта мы будзем прапаноўваць пакараць цябе на 8 гадоў, калі ты і так ужо стары, заканчваеш кар’еру. Давай — пажыццёва”. Прабачце, але праз 8 гадоў я буду “чыстым” чалавекам, а тут мяне на ўсё жыццё да ганебнага слупа прыбілі.

**— Вы казалі, што да вашых аргументаў не хацелі прыслухоўвацца?**

— Я ўказаў на некаторыя супярэчлівыя факты здачы допінг-пробы, там шмат “касякоў”. Але гэта нікога не зацікавіла. Яны чагосьці баяцца. Можна было б папрасіць у Міжнароднай федэрацыі мінімальны тэрмін пакарання для мяне, няхай бы апошняя вырашала... Не, секанулі! Я раней думаў, што беларуская камісія павінна хоць крыху абараняць беларускіх спартсменаў, аднак... Непрыемна.

**— Што будзеце зараз рабіць?**

— У спорце мне рабіць няма чаго, выштурхоўваю з яго бы тое ядро. Ды і навошта ім маладыя кадры? Лепш мець пад бокам пенсіянераў, якія маўчаць. Але буду нешта шукаць. У мяне ёсць рукі, ногі, галава. Ёсць, у рэшце рэшт, сям’я. Я ўмею працаваць. А дзе і як — пытанне часу.

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

ПА ЧУТКАХ І...

## *Вадзім Гігін на журфаку працаваць пакуль не збіраецца*

Чуткі аб тым, што рэдактар часопіса “Беларуская думка”, публіцыст і гісторык Вадзім Гігін можа ўзначаліць Інстытут журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, гуляюць па Мінску ўжо каля месяца.

Але, як высветлілася, яны маглі спраўдзіцца толькі пры нейкім форс-мажоры. Як паведаміла “Народнай Волі” крыніца на журфаку, выбары кіраўніка ўжо прайшлі, і ім зноў стаў **Сяргей Дубовік**.

Таксама не пацвердзіліся весткі аб тым, што з інстытута па палітычных прычынах звольніліся некаторыя супрацоўнікі. Па крайняй меры, нам такіх знайсці не ўдалося.

Магчыма, плеткары трохі перабольшылі і Вадзім Гігін збіраўся стаць не дырэктарам, а ўсяго выкладчыкам?

*“Пакуль ніякіх прапаноў мне не паступала”,* — пракаментаваў інфармацыю сам Вадзім Гігін.

У свой час Вадзім Гігін працаваў у прэс-службе Генеральнай пракуратуры, быў першым сакратаром Мінскай гарадской арганізацыі БРСМ. Кандыдат гістарычных навук вядомы сваім поглядам на некаторыя знакавыя падзеі мінулага. Лічыць, што беларусы вялі барацьбу з Вялікім Княствам Літоўскім, і адкрыта негатыўна ставіцца да ўдзельнікаў паўстання **Кастуся Каліноўскага**. З такой біяграфіяй не дзіва, што яго час ад часу “сватаюць” на больш высокія пасады, чым цяперашняя.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

## *Долар рухаецца да максімуму*

*У чацвер на Беларускай валютна-фондавай біржы прайшлі чарговыя таргі валютамі. Беларускі рубель працягвае слабець.*

Па выніках таргоў курс долара вырас да 8730 рублёў. Больш амерыканская валюта каштавала толькі ў лістападзе 2011 года, адразу пасля дэвальвацыі. Тады долар даскочыў аж да 8850 рублёў. А сённяшні курс еўра па выніках таргоў складае 11.660 рублёў.

ЧУЛІ?

## *Будуць школьныя алімпіяды па фізкультуры?*

З 2013/2014 навучальнага года, магчыма, для беларускіх школьнікаў будзе арганізавана рэспубліканская алімпіяда па вучэбным прадмеце “Фізічная культура і здароўе”, заявіў намеснік міністра адукацыі **Віктар Якжык**, падводзячы вынікі сумеснага пасяджэння калегій Міністэрства адукацыі і Міністэрства спорту і турызму.

У змест алімпіяды па фізкультуры прапануецца ўвесці спаборніцтвы, якія будуць уключаць элементы відаў спорту з вучэбнай праграмы (спартыўная гімнастыка, акрабатыка, атлетычная гімнастыка, аэробіка, плаванне, тэніс настольны, баскетбол, валейбол, гандбол, футбол). *“А для пераможцаў і прызёраў падрыхтуем прававую базу для льготнага паступлення ў ВНУ на спецыяльнасці “фізічная культура і спорт”,* — адзначыў намеснік міністра.

## *А ім — як з гусі вада*

У СМІ можна прачытаць шмат рэкламы наконт дзейнасці так званых рабочых груп па арганізацыі прафілактычных работ з грамадзянамі, якія вядуць антыграмадскі лад жыцця. Але як яно на самай справе?

У Веткаўскім раёне такая група павінна была правесці “прафілактыку” з бэйбусамі з аднаго з сельсаветаў. Група пад кіраўніцтвам кіраўніка спраў райвыканкама Юрыя Ганчарова ў вызначаны час прыехала. Але ў Нягліубцы замест 18 “ненадзейных кліентаў” іх чакалі толькі двое і старшыня сельсавета Рыгор Кулага. Як паведамляе газета “Голас Веткаўшчыны”, участковы інспектар выправіўся шукаць астатніх грамадзян, аднак вынік рэйду аказаўся нулявым.

Што ж, з усёй моцай узяліся за тых дваіх, што з’явіліся на прафілактычную гутарку. Вынік — на аднаго адразу ж пасля мерапрыемства быў складзены пратакол за знаходжанне ў грамадскім месцы ў нецвярозым выглядзе.

Вось такая прафілактыка...

ПАРАЛЛЕЛИ

# Наказали... полицию




*В белорусских тюрьмах остаются политзаключенные. Шесть лет лишения свободы — таков был приговор Николаю Статкевичу, восемь лет — анархисту Игорю Олиневичу, семь лет — анархисту Евгению Васьковичу, и так далее... По сути, все наши политзаключенные получили срок за те или иные акции протеста. И это невероятно суровые приговоры! Страшные приговоры! Но ведь акции протеста проходят по всему миру, в том числе такие, о которых любят вспоминать белорусские власти — когда происходят столкновения с полицией, когда демонстранты все крушат на своем пути, мешают людям пройти на работу и так далее, и тому подобное. Поэтому меня интересует, какие приговоры за такие акции выносят европейские суды? Сопоставимо ли белорусское наказание за участие в акциях протеста с наказанием в западных странах?*

**Виктор Леонович, Минск.**

## Великобритания: оштрафованная полиция

2 апреля 2009 года в Лондоне были арестованы 66 антиглобалистов, протестовавших против проведения саммита G20 в британской столице и захвативших пустующее здание в лондонском Сити.

Однако суд признал незаконным как задержание, так и последующее удержание активистов под стражей. В итоге лондонская полиция выплатила всем задержанным компенсацию в размере 237 тысяч фунтов стерлингов, то есть примерно по 3,5 тысячи фунтов стерлингов на человека.

“Такие истории в Англии случаются достаточно часто”, — рассказала The New Times старший директор Отдела законности и политики правозащитной организации “Артикль 19” Барбора Буковска.

## Кьомонтское дело

Действительно, уличные протесты во всем мире стали реалиями повседневной жизни. Вот только несколько примеров.

27 июня 2011 года под городком Кьомонте в итальянских Альпах полиция жестоко разогнала палаточный лагерь противников строительства 57-километрового железнодорожного туннеля. Через неделю после разгона лагеря, 3 июля, состоялось многотысячное шествие местных жителей по направлению к Кьомонте. Шествие было очень агрессивным, начались столкновения с полицией, полиция применила против участников акции слезоточивый газ... По данным властей Италии, в ходе столкновений под Кьомонте были ранены около 300 полицейских. Именно они, а также правительство Италии сейчас выступают в суде в качестве потерпевшей стороны. Самое суровое наказание, которое может грозить обвиняемым (несмотря на то, что это были настоящие уличные погромы с большим количеством пострадавших полицейских), — до пяти лет лишения свободы. Однако юристы уверены, что кьомонтское дело суровыми приговорами не закончится, так как итальянское правосудие обязано ориентироваться на Европейскую конвенцию по правам человека, гарантирующую свободу собраний.

Кстати, никакого разрешения на уличную акцию в Италии получать не надо: достаточно просто уведомить власти о том, что акция состоится.



## США: много шума и... ничего

17 ноября 2011 года неподалеку от здания Нью-Йоркской фондовой биржи полиция задержала группу молодых людей — участников движения протеста Occupy Wall Street (“Захвати Уоллстрит”). Эту акцию и ее разгон активно показывали белорусские телеканалы, демонстрируя: вот оно как на Западе.

Напомним, что тогда манифестанты пытались перегородить подступы к бирже, чтобы помешать людям попасть на работу. Полиция поначалу не разгоняла демонстрацию, несмотря на то что никакого разрешения на акцию не было, — просто оттеснила протестующих с проезжей части на тротуар, попросив митинговать именно там. Но манифестанты проигнорировали это требование, устроив сидячую забастовку на мостовой. “В общем-то было понятно, что если ты, несмотря ни на что, садишься на проезжую часть, то, наверное, ты хочешь, чтобы тебя арестовали, — рассказал еженедельнику The New Times один из участников акции Константин Гессен. — Я тоже сел на улицу, меня достаточно нежно повернули на живот и надели наручники... Вообще, полицейские вели себя с нами вполне вежливо, хотя в Америке нередки, конечно, случаи грубого обращения, когда людей валят на землю, даже жестоко бьют”.

Константина вместе с сотней других задержанных доставили в отделение полиции Манхэттена, где они провели ночь. На следующий день состоялся суд, на котором Константин признал свою вину в нарушении общественного порядка, за что поплатился штрафом ... в 120 долларов.

Как и Константин, остальные активисты движения Occupy Wall Street в США отделались небольшими штрафами.

## Греция: история про «гель Молотова»

11 марта 2010 года в Афинах во время разгона демонстрации протеста против правительственных мер жесткой экономии в числе сотен других был задержан 27-летний инструктор по плаванию Марио Зервас. В вину ему вменялось оказание сопротивления при аресте, а также нападение на полицейского с использованием взрывчатых веществ, или, проще говоря, “коктейля “Молотова”. Согласно показаниям арестовавших Марио стражей порядка, во время ареста он бросил в них бутылку с зажигательной смесью, из-за чего у одного из полицейских загорелся ботинок.

Однако в интернете появилась сделанная журналистами фотография ареста, на которой никакого взрыва “коктейля” не видно. В итоге после 40 дней заключения Марио был выпущен под подписку о невыезде, хотя должен был еженедельно отмечаться в полиции по месту жительства. Позже и это обязательство было с него снято во время судебного заседания в декабре 2012 года. В ближайшее время суд огласит дату следующего заседания, на котором, по мнению греческих юристов, Марио будет полностью оправдан.

Большинство задерживаемых в ходе уличных беспорядков в Греции отделываются штрафами. “Но даже если суд назначает срок, в 99% случаев он условный либо можно заменить его на штраф”, — разъясняет профессор криминологии Университета социальных и политических наук “Пантеон” в Афинах Эффи Ламбропулу.

Год тюрьмы при этом стоит в среднем 3 тысячи евро, штраф рассчитывается, исходя из доходов осужденного, и может составлять от 2 до 59 евро в день.

## Италия: сроки получили... полицейские

В ночь с 21 на 22 июля 2001 г. 346 полицейских ворвались в школу “Диаз”, где остановились на ночлег антиглобалисты, съехавшиеся со всего мира на саммит Большой восьмерки в Геную. Пока 149 карабинеров держали оцепление вокруг здания, полицейские жестоко избивали спящих молодых людей. Итог: 93 антиглобалиста были задержаны. Арестованным предъявили обвинение в участии в преступном сообществе, нацеленном на причинение ущерба и вандализм.

Однако все они позднее были отпущены, а заведенные на них уголовные дела — закрыты. Было доказано, что полиция сфальсифицировала улики, в частности, пронесла в школу “Диаз” две бутылки с зажигательной смесью, не принадлежавшие ночующим там антиглобалистам. Процесс над полицейскими, участвовавшими в избиении молодежи, тянулся более десяти лет.

Наконец, 5 июля 2012 г. Кассационный суд — высшая судебная инстанция в Италии — вынес окончательный обвинительный приговор 25 полицейским, среди которых были и высокопоставленные сотрудники правоохранительных структур. По обвинению в фальсификации служебных актов были осуждены Франческо Граттери, глава центрального Департамента по борьбе с преступностью (четыре года тюрьмы), Джованни Лупери, замдиректора Агентства внутренней информации и безопасности (четыре года) и Джильберто Кальдароцци, глава Центральной оперативной службы (три года и восемь месяцев тюремного заключения). А глава итальянской полиции Антонио Манганелли вынужден был принести публичные извинения за события июля 2001 года.

## От редакции

Иными словами, там, где есть по-настоящему независимый суд, просто невозможно получить шесть лет лишения свободы за участие в массовых беспорядках, которых, строго говоря, просто не было и в которых никто из милиционеров серьезно не пострадал. Тем не менее в Беларуси такое возможно, и бывший кандидат в президенты Николай Статкевич остается за решеткой.

Напомним, что по белорусскому законодательству массовые беспорядки — это поджоги, погромы, вооруженное сопротивление представителям власти. Ничего этого на акции протеста в ночь после президентских выборов, как известно, не было.

**Олег СНОВ.**

